ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 9 (108) 3 – 9 сакавіка 1995 г. Кошт 150 рублёў





## ВІНШУЕМ СА СЬВЯТАМ 8 САКАВІКА!





НЯДБАЙНАСЬЦЬ

Фатаграфаваў: У.УЛАДАСЕВІЧ.

## ЦЭНТРВЫБАРКАМ СКЛАЎ КАШТАРЫС ДЛЯ ВЫБАРАЎ

Старшыня цэнтральнай выбарчай камісіі Аляксандр Абрамовіч накіраваў на азнаямленьне Прэзідыуму Вярхоўнага Савета каштарыс сродкаў, неабходных на правядзеньне і падрыхтоўку парламенцкіх выбараў. Згодна разьлікам Цэнтрвыбаркаму на 15 лютага гэтага года, усяго на выбарчую кампанію неабходна выдаткаваць з дзяржбюджэту звыш 89-ці мільярдаў рублёў. У прыватнасьці, затраты на матэрыяльна-тэхнічнае забесьпячэньне выбараў, выдаткі на арэнду памяшканьняў, усталяваньне сродкаў сувязі, набыцьцё аргтэхнікі і паперы складуць прыкладна 45 мільярдаў рублёў. Заробак акруговых супрацоўнікаў і супрацоўнікаў Цэнтравыбаркаму налічыць значна болей 17-ці мільярдаў рублёў, іншыя расходы, зьвязаныя з правядзеньнем паседжаньняў актыву выбарчых камісій, студыяў, забесьпячэньня ўдзелу ў выбарах грамадзян, што жывуць за межамі Беларусі, абыдзецца ў 525 мільёнаў рублёў. Значная сума сродкаў (бадай 14 мільярдаў) будзе патрэбна на кампенсацыі заробку кандыдатаў у дэпутаты і іх даверaных асобаў падчас правядзеньня перадвыбарчай агітацыі.

Акрамя таго, па разьліках Цэнтрвыбаркаму, у рэзерве будзе захоўвацца 12,5 мільярда рублёў, што складае 16% ад агульнай сумы.

СІМ

## РАШЭНЬНЕ, ЯКОГА НЕ ЧАКАЛІ ДЗЕЦІ

Адным з горача абмяркоўваемых пытаньняў на Дваццаць чацьвёртай сесіі Гарадзенскага гарсавета быў прагноз эканамічнага і сацыяльнага разьвіцьця горада на 1995 г.

Шмат спрэчак выклікала абмеркаваньне пытаньня будаўніцтва 6-й дзіцячай палікінікі.

Дэпутаты не пагадзіліся з прапановай аб правядзеньні паіменнага галасаваньня, аб уключэньні яго ў прагноз з публікацыяй у друку.

Было прынята “саламонава рашэньне” - пасьля уводу першай чаргі дарослай палікінікі па вул.Транспартнай, будаваць шостую дзіцячую, зьняўшы яе з плануемай кансервацыі.

Сесія таксама прыняла рашэньне зьвярнуцца да прэм'ер-міністра М.Чыгіра аб выдзяленьні грашовых сродкаў на будаўніцтва дзіцячай палікінікі, паколькі ў свой час яны былі накіраваны на будаўніцтва жыльля для перасяленцаў з чарнобыльскай зоны.

Узяўся “ходить по всем кабинетам” дэпутат В.Кудравец. Верагодна Віктар Міхайлавіч такім чынам ужо стаў праводзіць перадвыбарчую кампанію, забыўшыся пра тое, што ён “с треском провалился”, балатуючыся ў гарадзкі Савет як старшыня гарвыканкама.

Лепей было б, калі б Кудравец разам з калегай С.Котавым - старшынёй камісіі па ахове здароўя ВС РБ - “выдавалі” грошы на палікініку па вул.Транспартнай, а не абіралі дзяцей, для таго, каб потым лекаваць у дарослай палікініцы тых, хто не атрымаў належнай медыцынскай дапамогі будучы дзецьмі.

І.ПАЛУБОК,
дэпутат Гарадзенскага гарсавета.

## СЕСІЯ ГАРСАВЕТА

28 лютага адбылася сесія Гарадзенскага гарадзкога Савета народных дэпутатаў. Яна разгледзела прагноз эканамічнага і сацыяльнага разьвіцьця горада і бюджэт на бягучы год, а таксама шэраг іншых пытаньняў. Па іх прыняты адпаведныя рашэньні. Падрабязнасьці чытайце ў наступным нумары “Пагоні”.

А.Д.

## УСПОМНІМ УСІХ ПАІМЁННА

У Беларускім Дзяржаўным музеі гісторыі рэлігіі Горадні, адбылася навуковая канферэнцыя, прысьвечаная 105-м угодкам са дня нараджэньня Казіміра Сваяка. У канферэнцыі ўзялі ўдзел гісторыкі, навукоўцы, супрацоўнікі музея.

Вырашана, што такія канферэнцыі стануць у Горадні традыцыйнымі.

В.ГЕРАСІМОВІЧ.

## ЗБОР ПОДПІСАЎ

Першыя паўтысячы подпісаў сабраныя ў Лідзе падчас акцыі “Народ супраць вайны”, зарганізаванай Беларускім Народным Фронтам “Адраджэньне”. Падпісваюца практычна ўсе, нават са словамі: “Я не падтрымліваю фронт, але супраць вайны”.

Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.

## МІНІМАЛЬНЫ ЗАРОБАК СЯГНУЎ ВАРТАСЬЦІ ТРОХ КІЛАГРАМАЎ КАЎБАСЫ

Падчас чарговай сваёй прэс-канферэнцыі кіраўнік кабінета Савета міністраў М.Чыгір заявіў так: “Прэзідэнт А.Лукашэнка падпісаў указ аб павялічэньні мінімальнай заробнай платы да 60 тысяч рублёў. Пасьля чаго ўрад прыняў пастанову аб павышэньні тарыфнай стаўкі першага разраду да ста тысяч рублёў”.

На жаль, пра дзень, з якога будзе павышаны мінімальны заробак, спадар прэм'ер не згадаў.

СІМ

## ПАМЯЦІ ЗЕМЛЯКА

Берасьцейскі аблвыканкам прыняў рашэньне аб правядзеньні шэрагу мерапрыемстваў па ўвекавечаньню памяці земляка, славутага беларускага пісьменніка Уладзіміра Калесьніка, які памёр напрыканцы мінулага году. Прапануецца ўстанавіць мемарыяльную дошку на доме, дзе апошнія гады жыў пісьменнік, даць яго імя адной з аўдыторый Берасьцейскага педінстытута, дзе ён адпрацаваў звыш трыццаці гадоў.

У мясцовых улад ёсьць намер хадайнічаць перад урадам, каб належным чынам ушанаваць яго імя і на рэспубліканскім узроўні.

Л.ЯСЕНЬ.

## БЕЛАРУСЫ – ПРАЎДЗІЎЦЫ НАРОДАЎ СЬВЕТУ

Надзвычайны і паўнамоцны пасол Ізраілю на Беларусі Эпіях Валк сумесна з першым сакратаром пасольства Міхаэлем Рынатам уручылі медалі і дыпломы “Праўдзіўцаў народаў сьвету” грамадзянам Беларусі, якія падчас Другой сусьветнай вайны дапамагалі габрэям.

(Э.-Х.)

## «ГЕРМЕС» ПРЫГЛЯДАЕЦЦА ДА НАФТАВЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАЎ БЕЛАРУСІ

Беларусь наведаў прэзідэнт расейскага канцэрна “Гермес” В.Нівераў. Свой чацьвёрты прыезд ён матываваў неабходнасьцю пошуку “точек роста, которые в будущем принесут "Гермесу" немало прибыли”.

Па словах кіраўніка расейскага канцэрна, падобныя візіты ён ажыцьцявіў у Алма-Ату і Баку, але з-за нявыгаднага падаткаабкладаньня ў гэтых краінах адмовіўся ад ідэі пашырэньня канцэрна на Усходзе. Зараз “Гермес” у большай ступені цікавіць Украіна і Беларусь.

Як заявіў В.Нівераў, у Менску ён зацікавіўся пераважна перспектывай разьвіцьця Беларусі, аб чым яму і было расказана ў аналітычным цэнтры пры адміністрацыі прэзідэнта. Вывучыўшы сітуацыю, прэзідэнт “Гермеса” прыйшоў да высновы, што інвеставаць у беларускую эканоміку зараз нявыгадна з-за няўстойлівага эканамічнага клімату. Слабыя фінансавыя структуры Беларусі яго мала цікавяць, прыватызацыя беларускіх прадпрыемстваў таксама малаперспектыўная. Аднак В.Нівераў сказаў, што ён не выключае магчымасьці прыватызацыі нафтавых і нафтаперапрацоўчых прадпрыемстваў Беларусі. На пытаньне, ці абгаворваліся з Кабінетам міністраў Беларусі магчымасьць набыцьця канцэрнам беларускіх прадпрыемстваў, ён адказаў ухіліста.

СІМ

## А.ЛУКАШЭНКА: “ЖУРНАЛИСТЫ ДОЛЖНЫ СТАТЬ ГОСУДАРСТВЕННЫМИ ЛЮДЬМИ”

24 лютага А.Лукашэнка сустрэўся з калектывам Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі. У сваім выступе прэзідэнт адзначыў, што зараз усе палітычныя сілы Беларусі апалчыліся супраць усенародна абранай улады і перашкаджаюць ёй працаваць. У такіх умовах, на думку А.Лукашэнка, “журналисты должны стать государственными людьми, которые должны помочь президентской команде вырваться из этого тупика”.

Прэзідэнт выказаў шэраг прэтэнзій да зьместу некаторых праграм, дзе адны і тыя ж нацыяналісты ўводзяць у зман народ, а таксама параіў прысутным , незалежна ад палітычных поглядаў, “ответственно относиться к освещению хода выполнения антикризисной программы”. А.Лукашэнка адзначыў таксама дзеяньні некаторых журналістаў: “Мне стало известно, что главный редактор газеты "Свабода" Игорь Германчук попросил сфотографировать меня на фоне какого-то плаката во время посещения мной воинской части, а также дал указания привезти снимки очень честной и порядочной женщины, которая меня сопровождала". Гэта, на яго думку, дыскрэдытуе не толькі яго, але і ўсю ўладу.

Выступаючы перад супрацоўнікамі тэлерадыёкампаніі, А.Лукашэнка ў чарговы раз пацьвердзіў свой намер правесьці рэферэндум па раней аб'яўленых пытаньнях (мова, дзяржаўная сімволіка і адносіны з Расеяй) і прымеркаваць яго да даты парламенцкіх выбараў. Ён заявіў, што дадатак да пытаньняў рэферэндума пытаньня аб даверы кіраўніку дзяржавы яго, як усенародна абранага прэзідэнта, ніколькі не пужае.

СІМ

# ПАЛІТЫЧНАЯ СТАРОНКА

## КАЛІ НАРОД ЗАСТАЎЛЕНЫ САМ НА САМ

Немагчыма ўтрымаць у душы тыя думкі, што вярэдзяць, сьвідруюць сэрца. Хочацца выказацца пра набалелае, каб той, хто прачытае гэта, усьвядоміў, што ён - гаспадар на гэтай зямлі і што ён адказны за яе лёс, што ён таксама вінаваты ў тым, што зараз адбываецца.

Не так даўно мы абіралі прэзідэнта. Справа патрэбная, вельмі адказная і новая. Народ выбраў таго, каго так прагна пажадаў, але адна справа малаціць языком, а другая - рабіць справу. Час няўрымсьлівы і абяцанкі запусьціць заводы, зьнізіць інфляцыю лопнулі як мыльны пухір. Народ, які так пляскаў у ладкі за будучую барацьбу са спекуляцыяй, карупцыяй, атрымаў наўзамен вялікі кукіш і застаўся адзін на адзін са сваімі праблемамі. А што ж "народны любімец і абраньнік"? Ён пачаў туды-сюды езьдзіць, пераапранацца ў чужыя строі ды й яшчэ ганарыцца гэтым. Стаўшы пакінутым "любімцам", народ сам пачаў шукаць якога-кольвечы выйсьця. Інтэлектуальная частка грамадзтва распачала шукаць паратунку за мяжой. Сьледам за ёй падаліся найбольш кваліфіцыраваныя рабочыя і проста людзі, што страцілі надзею на лепшую будучыню. На Бацькаўшчыне засталіся самаахвярнікі-патрыёты, якім у супрацьвагу выступаюць "Саюз афіцэраў" ды "віцебскія казакі". Менавіта гэтыя чорныя сілы цягнуць нашу краіну да аб'яднаньня на якой пажадаеш платформе. Не прайшла "рублёвая зона" і "калектыўная бясьпека", на табе мытны саюз ды інтэграцыю прадпрыемстваў. Але ім, што прагнуць зьнішчэньня беларушчыны, і гэтага мала. Яны пайшлі далей, прыдумаўшы на гэты раз аднавіць геапалітычнае ўтварэньне на адной шостай сушы зямлі праз культурнае аб'яднаньне. Што гэта прынясе Беларусі - вядома ж культурны заняпад, гістарычнае бяспамяцтва і праз пэўны час поўнае зьнішчэньне. А што ж народ? Абʼілганы, кінуты на самавыжываньне, ён стаіць у бясконцых чэргах ці пакутуе ў сьцюжу і сьпякоту на торжышчах суседніх краін.

В.КУЛІК.

## ЗАЯВА

### Гарадзенскай абласной рады Патрыятычнага руху БЗВ

13 лютага выканкам Патрыятычнага Руху БЗВ атрымаў паведамленьне ад Міністэрства юстыцыі РБ аб рэгістрацыі. З гэтай нагоды Гарадзенская абласная рада Патрыятычнага Руху "Беларускае згуртаваньне вайскоўцаў" мае заявіць:

1. Час, які па міласьці ўраду Кебіча мы былі па-за законам, не прапаў марна. Дзейнасьць БЗВ не спынялася ні на дзень.

2. За апошні год колькасьць харугваў БЗВ у Гарадзенскай вобласьці патроілася і прадаўжае павялічвацца.

3. Харугвы БЗВ Гарадзенскай вобласьці ні на крок не адступілі ад прынцыпаў Вялікай Нацыянальнай ідэі беларускага народа, зьяўляюцца гарантам адзінства ўсіх дэмакратычных і нацыянальна-патрыятычных сілаў Прынёманскага краю.

4. Харугвы БЗВ Гарадзенскай вобласьці знаходзяцца ў пастаяннай гатоўнасьці выступіць на абарону незалежнасьці Беларусі ад зьнешняга і ўнутранага ворага. Мы папярэджваем усіх аматараў гульні з нашай дзяржаўнасьцю і незалежнасьцю, кожны, што хоць крок зробіць у бок нацыянальнай здрады, нясе асабістую адказнасьць за свае ўчынкі ў поўным аб'ёме Кодэкса Нацыянальнага Гонару беларуса. Мы папярэджваем усю набрыдзь, якая раскашуе на нашай Бацькаўшчыне, калі хочаце жыць як грамадзяне Беларусі, карыстацца правамі і выконваць абавязкі - калі ласка, у іншым выпадку - межы Беларусі пакуль адкрытыя.

Цэльнасьць і непадлегласьць Беларусі - на нашай тарчы, рашучасьць і нянавісьць да ворагаў - на нашым мячы.

Жыве Незалежная Беларусь!

Зянон Пазьняк зрабіў на гэтую заяву такі каментар: "Стварэньне штучнага атачэньня і адмежаваньня ад зьнешняга сьвету - гэта адно з адрозьненьняў бальшавікоў. Прэзідэнт з посьпехам узяў гэта на ўзбраеньне. І нічога дзіўнага няма ў тым, што заезжыя старэйшыя браты беларускага прэзідэнта бачаць тое, што яны жадаюць ўбачыць".




## ШУКАЕМ ВОРАГАЎ

*Што за мода ў нас такая,*
*Вечна ворагаў шукаем.*

*Вось і зараз прэзідэнт*
*Нам падкосіць прэцэдэнт.*

*Як трыбуну асядлае,*
*Тут жа злыдняў выкрывае.*

*"У тым, што нізкія зарплаты*
*Вінаваты дэпутаты.*

*Кажаш, цэны паўзрасталі? -*
*Дэмакраты паўздымалі.*

*З абяцанак выйшаў блеф? -*
*Вінаваты БНФ..."*

*Хто ні ў чым не вінаваты? -*
*Лукашэнкавы "рабяты".*

Станіслаў СУДНІК.

## КААРДЫНАЦЫЙНАЯ РАДА БЗВ

25 лютага 1995 года ў Менску адбылося паседжаньне каардынацыйнай рады Патрыятычнага руху "Беларускае згуртаваньне вайскоўцаў". На радзе была разгледжана сітуацыя ў краіне і мэты БЗВ, - пытаньні падрыхтоўкі да сьвяткаваньня 585 угодкаў Грунвальдзкай бітвы і арганізацыйна-тэхнічныя пытаньні, якія паўсталі пасьля чарговай рэгістрацыі БЗВ.

Таксама, прызнаны камандзір "Беларускага нацыянальнага легіёна драбаў".

Палкоўнік Усяслаў ВОЙНІЧ.

## РАСЕЙСКАЙ МАС-МЕДЫА ПЛАЦІЦЬ БНФ

Менавіта так лічыць дарадца прэзідэнта Расеі Б.Ельцына - Андронік Міграньян. Аб гэтым спадар дарадца заявіў падчас просьбы карэспандэнта пракаментаваць ідэю рэферэндума прэзідэнта А.Лукашэнка аб уз'яднаньні з Расеяй. На думку А.Міграняна, склалася надзвычайная сітуацыя, калі на старонках прэсы Расеі прапагандуюцца антырасейскія настроі ў Беларусі. А.Міграннян усчуваў нягеглых журналістаў за тое, што тыя не абараняюць інтарэсы Расеі на Беларусі, а патураюць невялічкай групцы нацыяналістаў, за што БНФ ім плаціць.

## ПАВЕЛ ГРАЧОЎ МАРЫЦЬ БАЧЫЦЬ РАСЕЙСКУЮ МЯЖУ ПА-ЗА ГОРАДНЯЙ І БЕРАСЬЦЕМ

Падчас візіту П.Грачова на Менскі аўтазавод "МАЗ", расейскі міністр заявіў наступнае: "Расеі далёка небаякава, дзе будзе праходзіць заходняя яе мяжа. Я кажу менавіта таму, што ў маім разуменьні брацтва беларускага і рускага народу разбурыць нельга".

## МУС ЧАКАЕ ПЕРАМЕНАЎ

Міністр унутраных спраў Юры Захаранка не пойдзе ў адстаўку. Аб гэтым паведаміў у тэлефоннай размове карэспандэнту памочнік сакратара Савету бясьпекі Віктар Міклашэвіч. Таксама змога прадоўжыць службу у шэрагах МУС генерал Ізотаў, якому, дарэчы, ужо ёсьць 55 год. Згодна з палажэньнем аб прахаджаньні тэрміну службы ў органах МУС асоб шэраговага і камандуючага складу генерал будзе працаваць у тым выпадку, калі прэзідэнт прадоўжыць яго паўнамоцтвы спецыяльным указам.

Аднак, у шэрагах МУС стала мусіруецца думка, што ў кіраўніцтве ўсё такі пройдуць значныя зьмены. Не выключана, што гэта ўсё ж такі тычыцца вышэйзгаданых спадароў і іх калегі-генерала Сяргея Рухлядзева, дзейнасьцю якога, як і дзейнасьцю міністра, не задаволены А.Лукашэнка.

СІМ

## НАЦЫЯ І НАЦЫЯНАЛІЗМ У СІСТЭМНЫМ АЗНАЧЭНЬНІ

**Даклад Паўла Букі на першым зьезьдзе беларускіх нацыяналістаў 26-27.11.1994, Віцебск.**

Беларуская нацыянальная ідэалогія не мае дакладнага азначэньня. Існуе толькі яе зародкавая форма - беларуская ідэя. Беларуская ідэя фармулюецца ў двух сказах. Першае: існуе асобная беларуская нацыя. Другое: сёньняшняя Рэспубліка Беларусь мусіць стаць яе нацыянальнай дзяржавай. Якія асаблівасьці беларускай нацыі, як зрабіць дзяржаву беларускай - ідэя не дае адказу.

Беларуская ідэя мае два ўвасабленьні: адраджэнцтва і нацыяналізм. Ідэя адраджэньня зьявілася ў 70-80-я гады, калі беларуская нацыя канала. Думка была простая: як існаваньне нацыі было перапыненае гвалтоўна - то трэба аднавіць усё дакладна, як было - і нацыя зноў ажыве. Адсюль пошукі ў гісторыі першапачатковай Беларусі, якую і трэба аднаўляць. Зараз мэта адраджэньня дасягнутая: адроджанае ўсё, што было магчыма адрадзіць. Некаторыя з вас могуць запярэчыць, што існуе сёе-тое, вартае адраджэньня. Так, я сам такое ведаю, і не адно. Але нацыя ўжо адноўленая. Яна зьявілася не такая, як была. І не такая, як нам бачылася. Але яна жыве. Існуе беларускі рух, дзяржава мае незалежнасьць. Далейшае аднаўленьне мінулых канструкцый таксама карыснае і патрэбнае, бо ўдасканаліць нацыю і дзяржаву. Але мінулае не пакажа нацыі і кожнаму беларусу, што рабіць далей у сёньняшнім і будучым сьвеце.

Адраджэнцы сказалі: трэба аднавіць нацыю. А што рабіць зараз, калі нацыя ўжо адноўленая. Тут патрэбна новая ідэя, скіраваная ў будучыню. Ідэя канструяваньня дзяржавы. Ідэя, якая дасьць працу кожнаму. Кожнаму пакажа, што канкрэтна трэба рабіць дзеля Беларусі. Такая неабходнасьць была ўсьвядомленая. Пошукі пачаліся ў тыя часы, калі камуністы перайшлі ў наступ і пачалі называць усіх беларусаў нацыяналістамі. Слова прыйшлося да месца, ім назваліся тыя, хто шукаў новага, хто пайшоў далей. Так пачаўся нацыяналістычны рух. І сёньня мы, нацыяналісты, сабраліся на свой першы зьезд, каб вызначыць, што такое беларускі нацыяналізм, і якая будзе беларуская нацыя.

НАЦЫЯНАЛІЗМ

Беларускае адраджэнцтва і нацыяналізм - не дзьве асобныя ідэалогіі, а ступені разьвіцьця адной, званай у сьвеце нацыяналізм. Нацыяналізмам завецца ідэалогія будаваньня і абароны нацыі, абароны незалежна ад неспрыяльных навакольных умоў. І як такі, нацыяналізм - стваральная, станоўчая сіла ў сьвеце.

Яму процістаяць з аднаго боку - манапалізм, з другога - недзеяздольнасьць асобных нацыяў. Манапалізм імкнецца да захопу ўсяго сьвету. Дзеля гэтай мэты ён асімілюе і зьнішчае асобных людзей, і цэлыя народы. Таму нацыянальны манапалізм - найвялікшае злачынства ў сьвеце. Нацыянальная недзеяздольнасьць згаджаецца на ўласнае зьнішчэньне, і тым перашкаджае намаганьням нацыяналізму сваёй і іншых нацыяў. Таму ідэялогіі недзеяздольнасьці таксама трэба прызнаць злачыннымі.

Беларуская нацыя - дзеяздольная. Беларускі нацыяналізм мае натуральнае імкненьне да абароны беларускага ладу, да ўсталяваньня беларускага парадку. Але нацыя можа захавацца толькі даючы нешта навакольнаму сьвету. Эліны далі дэмакратыю і навуку. Рым - цывільнае права. Нямецкія гарады - магдэбурскае права. Вялікае княства Літоўскае - Статут дзяржавы. Нацыя стварае нешта добрае для сябе і дае гэта самае іншым.

Зараз задача Беларусі - так уладкаваць уласны стан, каб гэта было прыдатнае і іншым. Гэта і ёсьць задача кожнага нацыяналіста. На дасягненьне гэтай мэты і мусіць быць накіравана канкрэтная дзейнасьць і праца кожнага.

Такія канкрэтныя задачы ставіць сабе Беларуская Нацыянальная Партыя. Ставіць іх, як партыя адказная, як партыя дзяржаўная. Партыя, адказная за ўсю дзяржаву, за ўвесь рух уладкаваньня дзяржавы.

У дзяржаве ёсьць зямля. Ёсьць расьлінны і жывёльны сьвет. Ёсьць людзі. Ёсьць вытворчасьць. Ёсьць мова, гаворкі, навука, мастацтва. І Беларуская Нацыянальная Партыя ўжо склала і працягвае складаць канкрэтныя праграмы ўдасканаленьня ўсіх гэтых узроўняў. Усіх узроўняў, іх узаемадзеяньняў і дынамікі. Дзеля складаньня і ўвасабленьня гэтых праграм мы заклікаем да супрацоўніцтва ўсе партыі, адраджэнцкія і іншыя арганізацыі, прафсаюзы і дзяржаўныя ўстановы. Нацыяналісты гатовыя да супрацоўніцтва.

НАЦЫЯ

Уласны лад Беларускай нацыі вызначаны ў часы Вялікага княства Літоўскага і адзначаны Статутам Вялікага княства як лад многаплямeнны і шматканфесійны. Вызначыўшы сувязі і ўмовы ўзаемадзеяньня між тутэйшых і нетутэйшых, між розных законаў, беларуская нацыя стварыла ўмовы дзеля іх захаваньня і суіснаваньня ў межах адной нацыі неабмежаваны час.

Сёньня Беларускі лад вызначаецца патрэбамі будучага ўладкаваньня, патрэбамі ўзаемадзеяньня з іншымі нацыямі, патрэбамі існаваньня нацыі ў сучасным і будучым сьвеце. Таму ідуць спрэчкі пра Беларускі шлях. Пытаньне: куды рухацца далей, які абраць узор. Адсюль будзе зразумела, якія зьмяненьні патрэбныя ў беларускім ладзе.

І трэба не проста абраць і аднавіць, трэба ўдасканаліць. Трэба ўдасканаліць беларускую мову. Мову, як спосаб сказаць нешта новае, нечаканае і вельмі неабходнае. Тое, што раней сказаць было немагчыма. Трэба ўдасканаліць беларускае мастацтва, так як гэта зрабілі ў свой час "Песьняры". Трэба ўзьняць на новы ўзровень Беларускую тэхніку і Беларускую прыроду.

Гэта і ёсьць місія нацыяналізму: усё ўдасканаліць, быць адказным за ўсё.

## УЛЬТЫМАТУМ, ЯКІ ПАКУЛЬ ШТО НЕ ПРЫНЯТЫ

У сувязі з рэзкім паваротам палітыкі Расейскай Федэрацыі ў бок акупацыі Беларусі і інкарпарацыі яе ў склад Расеі Каардынацыйная Рада БЗВ патрабуе:

1.Спыніць эканамічны, палітычны і вайсковы ціск на Беларусь.

2.Абмежаваць усякія дачыненьні з нашым прадажным Прэзідэнтам.

3.Строга выконваць графік выводу расейскіх войскаў з тэрыторыі Беларусі, не рабіць спробаў затрымаць хоць якія аб'екты на больш позні час.

Пры невыкананьні гэтых умоў Патрыятычны рух БЗВ пакідае за сабой права пераходу ў стан вайны з Узброенымі Сіламі Расеі, разьмешчанымі на тэрыторыі Беларусі.





# ГРАМАДЗТВА

## ДЭМАКРАТЫЯ - ГЭТА ТЭХНАЛОГІЯ ЎЛАДЫ

Напрыканцы другой дэкады лютага, ў Менску, ў былым Доме палітасьветы, адбылася Нацыянальная асамблея прагрэсіўных сіл Беларусі пад назовам "Геапалітыка. Інтэграцыя. Прагрэс". Арганізатарам і фундатарам асамблеі выступіла "Нацыянальная асацыяцыя садзеяньня сацыяльна-эканамічнай рэформе". У працы асамблеі ўзялі ўдзел больш як паўтары тысячы чалавек. Сярод іх навукоўцы з Украіны, Расеі, Беларусі, журналісты, сябры Свабоднага прафсаюза, прадстаўнікі альтэрнатыўнай ветэранскай арганізацыі нашай дзяржавы.

Першы дзень асамблеі пачаўся з пленарнага паседжаньня. Пасьля яго ўдзельнікі асамблеі прадоўжылі працу на чатырох секцыях, дзе абмяркоўваліся такія набалелыя пытаньні, як фенамен таталітарызму і сацыяльная філасофія, стратэгія сучасных рэформаў і сацыяльна-культурныя традыцыі, філасофія бізьнесу і эвалюцыя сацыяльнага менталітэту, а таксама экалогія і палітыка ў постчарнобыльскую эпоху. Завяршылася праца першага дня вялікай культурнай праграмай з удзелам знакамітых гуртоў "Верасы", "Сябры", "Крама", "Палац".

Другі дзень нацыянальнай асамблеі прагрэсіўных сіл распачаўся з дыскусійных паседжаньняў. Шмат ахвочых сабралася ў зале, дзе праходзіў дыспут на тэму "Нацыянальная ідэя і перспектывы аўтарытарызму ў сучасным сьвеце". Выступоўца, доктар філасофскіх навук І.Я.Ляваш, у сваім дакладзе зазначыў так: "Дэмакратыя - гэта тэхналогія ўлады. Беларусі неабходна абавязкова вывучыць палітычны вопыт будовы дзяржаўнага ладу ў краінах Цэнтральнай Эўропы, такіх як Чэхія, Славакія, Польшча". На думку прамоўцы, гэта дапаможа нашай краіне хутчэй выпрацаваць сваю канцэпцыю трансфармацыі нацыянальнай ідэі ў асяроддзе грамадзян.

Свае "круглыя сталы" правялі ветэраны, сябры незалежнага прафсаюзу, журналісты. Завяршылася нацыянальная асамблея палітычнай дыскусіяй з удзелам Народных дэпутатаў РБ А.Трусава, Г.Карпенкі, С.Шушкевіча і прадстаўнікоў выканаўчага сакратарыяту Управы Беларускага Народнага Фронту.

**Г.АСТРОЎСКІ.**

## ГАНЬБА РАСЕЙСКАЙ ЗБРОІ

Расея не можа жыць без вайны. Калі не ўдаецца паваяваць з кім-небудзь, то ўсчынае, як кажуць палякі, "войну домову". Вайна ў Чачні - дакладна спланаваная спецслужбамі Расеі акцыя. І пагроза Расеі ў гэтай вайне таксама спланавана тымі ж спецслужбамі, - гэта Ельцын і Грачоў думаюць, што яны ваююць за непадзельнасьць Расеі.

Расейскія жаўнеры думаюць, што іх пасылаюць перамагчы "непаслухмяных" чачэнцаў. І Ельцын, і Грачоў, і расейскія жаўнеры ўдзельнічаюць у гэтай вайне дзеля ўласнай паразы. Але хто ж тады будзе пераможцам? Можа Чачня? Ні ў якім разе. Чачню калі не даб'юць, то разбураць да такой ступені, што зьвядуць да стану 1817 года. Ну дык хто ж пераможа? Зараз паспрабуем адказаць на гэтае пытаньне. У калявайсковых колах Расеі настойліва пачалі распаўсюджвацца чуткі, што расейская зброя вельмі дрэнна паказала сябе ў Чачні. Падае яе прэстыж. Рушыцца экспартная магчымасьць Расеі на збройным рынку. Нават лазерная зброя, якую расейцы прымянілі ўпершыню супраць мірнага насельніцтва Чачні, не прынесла посьпеху.

І вось праводзіцца канферэнцыя па канверсіі ў Расеі. Дарэчы, на ёй была і беларуская дэлегацыя. На канферэнцыі выступіў член Савета Бясьпекі Расеі акадэмік Малей. Ён навукова давёў, што канверсія ў Расеі правалілася, што народная гаспадарка не атрымала таго выйгрышу, які чакаўся, а вось вайна паказала дрэнную якасьць зброі. Таму становішча тэрмінова трэба выпраўляць.



**ПАСЬЛЯ ЗАРПЛАТЫ.**

**Фатаграфаваў У.УЛАДАСЕВІЧ.**

Неабходна абнаўляць узбраеньне. Адлік з напрамкаў гэтага абнаўленьня - нейтрынна-антропныя тэхналогіі. Беларусь з яе магутным патэнцыялам у галіне фізічных навук будзе прыцягвацца да распрацовак гэтых тэхналогій. Ваенна-прамысловы комплекс Расеі (ВПК) будзе выводзіцца на новы ўзровень. Такія вось шчырасьці, а разам і адгадка.

ВПК - гэта магутнейшая сіла Расеі. Гэта ён кіруе і войскам, і спецслужбамі, і дзяржавай. Вайна ў Чачні паказвае - трэба разьвіваць узбраеньне, трэба разьвіваць ВПК, трэба грошы. І грошы будуць. Не будзе на хлеб, на вугаль, на нафту - на ВПК будуць.

Усяслаў **ВОЙНІЧ**,
палкоўнік.

## У ГОРАДНІ БУДЗЕ ПОМНІК А.МІЦКЕВІЧУ

25 лютага журы, у склад якога ўвайшлі прадстаўнікі гарадзкіх улад Горадні, Саюза палякаў Беларусі, скульптары, сярод якіх старшыня таварыства польскіх скульптараў Е.Грохульскі, падвяло вынікі аб'яўленага ў траўні мінулага года конкурсу на лепшы праект бюста-помніка польскаму пісьменьніку Адаму Міцкевічу. Ён будзе ўстаноўлены перад будынкам СПБ у Горадні.

Свае работы на конкурс прадставілі гарадзенскія скульптары А.Аньціпін, А.Салятыцкі, а таксама Э.Казак з Польшчы і творчы калектыў пад кіраўніцтвам менскага скульптара А.Засьніцкага. Журы аддало перавагу праекту помніка апошняга. Менавіта ён атрымае ад камітэта памяці А.Міцкевіча прэмію ў 500 долараў ЗША, а польскі скульптар - 100 долараў.

Лаўрэаты конкурсу, а таксама А.Аньціпін, які заняў у ім трэцяе месца, будуць удастоены званьня "Ганаровага сябра Саюза палякаў Беларусі".

Па словах намесьніка старшыні СПБ Т.Малевіча, бюст будзе бясплатна адліты на варшаўскім заводзе "Воля". Мяркуецца, што ўстаноўка помніка славутаму пісьменьніку будзе прымеркавана да пяцігадовага юбілею Саюза палякаў Беларусі і газеты "Glos znad Niemna", які будзе адзначацца 18-19 чэрвеня 1995 года.

**А.ДУК.**

## НЕ ЗАГЛЯДАЦЬ У ЧУЖЫЯ КІШЭНІ

У штотыднёвіку "Пагоня" N 6 былі надрукаваны зьвесткі аб заробку ў горадзе Лідзе і Лідзкім раёне рознымі катэгорыямі працаўнікоў. Як жа адрэагавалі нашы чытачы на гэтыя зьвесткі? Большасьць адмоўна выказваецца наконт высокай зарплаты працаўнікоў аграпрамбанка (2 мільёны 112 тысяч рублёў у месяц).

**Аўдоцьця Фёдараўна Рышкова**, ветэран вайны, былы медработнік:

- Колькі хочуць, столькі і налічваюць. Калі мы працавалі, гэтага не было.

**Н.С.Гааян** і **Н.П.Гамулецкая**, працаўнікі Скідальскай гарбібліятэкі:

- А што мы менш працуем, чым работнікі аграпрамбанка? - Не. Але атрымліваем у 13 разоў менш. Чаму гэта так? Гэта яўна несправядліва.

**В.М.Слуцкі**, жыхар г.Скідаля, пеньсіянер:

- 2 мільёны 112 тысяч - гэта ў сярэднім, а начальнікі, відавочна, атрымліваюць можа 5, а можа і 10 мільёнаў у месяц. Гэта факт. Адны могуць купацца ў грошах, а іншыя цягнуць жабрацкае жыцьцё.

**І.БАРЫСАЎ.**

## ЖУРНАЛІСТЫ ЗЬБІРАЮЦЦА АБАРАНЯЦЬ СВАЕ ПРАВЫ

Па адзінагалоснай згодзе на "круглым стале" журналістаў цэнтральных і рэгіянальных сродкаў мас-медыа ў Менску створаны арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы неабходных дакументаў для рэгістрацыі "Асацыяцыі прагрэсіўных журналістаў". Галоўнай мэтай "Асацыяцыя прагрэсіўных журналістаў" ставіць распрацаваньне цывілізаванай дзяржпраграмы развіцця СІМ, якая павінна грунтавацца не на чыноўніцкай дзяльбе датацый, а на стварэньні спрыяльных умоў для дзейнасьці ўсіх мас-медыа праз палітыку ільготнага падаткаабкладаньня, памяркоўных тарыфаў на друкаваньне і распаўсюджаньне прадукцыі прэсы. Таксама Асацыяцыя выступае за раздзяржаўленьне сродкаў масавай інфармацыі, акцыянаваньня Дзяржтэлерадыё, дэманапалізацыі паліграфічнай базы шляхам раздзяржаўленьня выдавецтва "Беларускі дом друку" і іншых буйных выдавецтваў.

Асацыяцыя плануе не выходзіць са складу прафесійнага Саюза журналістаў, а выступаць ў яго шэрагах, як канструктыўная апазіцыя.

Падрыхтоўка дакументаў даручана спадарыні Жане Ліцьвіной.

**Г.Д.**

## ВЭРХАЛ

Вэрхал, усчаты на заводзе "Лідсельмаш", варты ўвагі. Справа ў тым, што 51% акцый гэтага завода пажадаў выкупіць былы кампаньён з Германіі. Немец гарантуе на тры гады захаваць колькасьць рабочых месцаў і павялічыць заробак рабочым у 4-5 разоў. Усе рабочыя завода згодны з продажам акцый на такіх умовах. Супраць толькі камуністы. Распачаўшы сапраўдны вэрхал-дыскрэдытацыю, яны згадалі і пра інтрыгі Захаду, і наступ капіталу, і, нават, пра незалежнасьць Беларусі.

Згодна з заявай камуністаў, продаж акцый Эўрапейскай краіне - гэта страта незалежнасьці. На іх думку, лепш "Лідсельмаш" перадаць Расеі як гарант ўмацаваньня суверэнітэту.

Вацлаў **СЯРПІНСКІ.**

## «ЭЎРАЗІЯ» ПРАВЯЛА СЕМІНАР

24 лютага ў Гарадзенскім абласным навукова-метадычным цэнтры Кіеўскае рэгіянальнае прадстаўніцтва міжнароднага фонду "Эўразія", у рамках конкурсу "Разьвіцьцё непрыбытковага недзяржаўнага сектару на Беларусі", правяло семінар. На ім прадстаўнікі фонду расказалі пра мэты конкурсу (падтрымка праектаў, накіраваных на паляпшэньне работы ўжо існуючых няўрадавых арганізацый і прадстаўленьне новым арганізацыям стартавых сродкаў); якім праектам будзе аказвацца падтрымка (навучаньне персаналу і арганізацыйнае разьвіцьцё, асьвета насельніцтва і разьвіцьці сувязяў з грамадзкасьцю, разьвіцьцё сувязяў некамерцыйных недзяржаўных арганізацый); якім чынам будзе праводзіцца адбор заявак у рамках дадзенай праграмы. Яны паведамілі таксама, пра дзейнасьць фонду "Эўразія" на Украіне, Беларусі, у Малдове, якія арганізацыі гэтых краін ужо атрымалі фінансавую дапамогу.

6-14 сакавіка Кіеўскае прадстаўніцтва фонду "Эўразія" праводзіць у Менску індывідуальныя кансультацыі. Па больш падрабязную інфармацыю зацікаўленыя могуць зьвярнуцца ў Менскі офіс амэрыканскай арганізацыі "Юнайтэд Уэй Інтэрнэшнл" па тэлефонах: (0172) 39-91-21, 32-70-64.

**Ул.інф.**

## АДКРЫТЫ ЛІСТ

### Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь М.І.Грыбу

Паважаны Мечыслаў Іванавіч!

Мы, ветэраны Горадні, зьвяртаемся да Вас з нагоды ганьбы рэктарам Гарадзенскага Дзяржаўнага універсітэта імя Я.Купалы Л.Ківачам дацэнта кафедры рускай і замежнай літаратуры Мікалая Аляксандравіча Мельнікава - педагога і навукоўца, грамадзкага дзеяча, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны.

30 жніўня 1994 года М.А.Мельнікаў, адзіны з супрацоўнікаў пеньсіённага ўзросту, быў звольнены з працы без папярэджаньня падчас хваробы. Тым самым была прыпынена шматгадовая педагагічная і навуковая дзейнасьць. Мы зьвярталіся з лістом у Вярхоўны Савет РБ да старшыні камісіі па адукацыі, культуры і захаваньню гістарычнай спадчыны Н.С.Гілевіча і прасілі яго дапамагчы ў аднаўленьні на працы М.А.Мельнікава. Нам паведамілі, што ў бліжэйшы час будуць прыняты меры для аднаўленьня на ранейшай пасадзе дацэнта Мельнікава, але ніякіх мер не было прынята.

Мы, ветэраны, сумесна з прадстаўнікамі грамадзкіх арганізацый і палітычных партый дэмакратычнага накірунку раілі Л.Ківачу аднавіць на працы спадара Мельнікава. Наша прапанова была праігнаравана.

Не прыслухаўся рэктар і да пратэсту настаўнікаў Гарадзенскай вобласьці. Настаўнік-метадыст, дэпутат абласнога Савета народных дэпутатаў А.М.Белакоз пісаў у "Народнай газеце" ад 1 кастрычніка 1994г.: "Нельга маўчаць пра расправу з дацэнтам ГрДзУ Мельнікавым..."

Два з паловай месяцы высокакваліфікаваны супрацоўнік вышэйшай школы быў адарваны ад справы, якой ён аддаў больш як трыццаць гадоў. 17 лістапада 1994 г. Народны суд Ленінскага раёна Горадні прыняў рашэньне аднавіць Мельнікава на пасадзе, з якой ён быў звольнены. Мы спадзяваліся, што для нашага сябра і кіраўніка настане спакой. Але мы абмануліся ў надзеях.

Ганеньне на Мельнікава доўжылася. Калі ён прыйшоў на кафедру, дэкан факультэта замежных моў Л.Рычкова і в.а. заг.кафедрай Т.Сіманава не дапусьцілі яго да працы, пры гэтым груба абразілі.

25 лістапада рэктар даслаў у судовую калегію па грамадзянскіх справах Абласнога суда скаргу на рашэньне Народнага суда Ленінскага раёна. Скарга Л.Ківача задаволена: калегія скасавала рашэньне суда з падачай справы на новае разгледжаньне.

Упэўнены, што рашэньне суда аб аднаўленьні ветэрана на працы зьяўляецца законным і справядлівым. Матывы, па якіх калегія адмяніла гэтае рашэньне, неабгрунтаваны. Лічым, што калегія ісьцінай пагрэбавала.

Для Мікалая Аляксандравіча пачаўся яшчэ адзін этап барацьбы за праўду.

Хто ж такі Мікалай Аляксандравіч Мельнікаў? Каля сарака гадоў працуе Мікалай Аляксандравіч у ГрДзУ. Кандыдат педагагічных навук, дацэнт, сем год узначальваў кафедру, кіраўнік асьпірантуры, аўтар пяці кніг, некалькіх дзесяткаў артыкулаў.

Падчас ВАВ у партызанскім атрадзе "Беларусь" камандаваў аддзяленьнем, быў рэдактарам газеты, потым шэраговым жаўнерам вызваляў Радзіму, штурмаваў Кёнігсберг і вось зараз, напярэдадні 50-годдзя Перамогі, у якую ён унёс свой ўклад, яго пакінулі без любімай працы.

Толькі зараз мы зразумелі: такое настойлівае жаданьне расправіцца з Мельнікавым прадыктавана помстай Л.Ківача за крытыку Мікалаем Аляксандравічам, асабіста ў друку, "рэарганізацыі" універсітэта, яго стылю кіраўніцтва і кадравых перастановак.

Мы пратэстуем ад глумленьня над чалавекам, якому адрасаваны такія словы: "Вы, Мікалай Аляксандравіч, змаглі выхаваць у нас пачуцьцё адказнасьці".

У нас, людзей шмат пабачыўшых за сваё жыцьцё, прайшоўшых па дарогах вайны і працы, узьнікае пытаньне: ці мае маральнае права Л.Ківач, які паставіў сваёй мэтай адпомсьціць дастойнаму працаўніку, кіраваць вышэйшай навучальнай педагагічнай установай?

Л.Ківач разьлічвае, што яму дапаможа суд, альбо спадар Мельнікаў не вытрывае такога напору і сам пакіне універсітэт. Таму мы просім Вас, Мечыслаў Іванавіч, прыпыніць тэрор, разьвязаны рэктарам ГрДзУ супраць навукоўца і педагога, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны. Не дазволіць разбурыць распрацаваную ім сістэму разьвіцьця творчага патэнцыялу будучага настаўніка літаратуры, фарміраваньня ў яго нацыянальнай сьвядомасьці, жаданьня жыць па сумленьню.

**Рада Дэмакратычнага аб'яднаньня ветэранаў г.Горадні.**

# СУМЕЖЖА

## ПРЭЗІДЭНТЫ ХОЧУЦЬ ЗААРАЦЬ МЯЖУ

Параўноўваючы ў Польскім Сейме польска-летувіскую мяжу да берлінскага муру, прэзідэнт Летувы Альгірдас Бразаўскас алегарычна прадставіў цяперашнюю сітуацыю на межных пераходах паміж дзяржавамі.

Тым, хто перакрочвае гэтыя пераходы, перш за ўсё даецца ў знакі разгубленасьць мытнікаў ды памежнікаў. Абодва бакі ўзаемна абвінавачваюць сябе за тое, што адбываецца, але ніводзін не зрабіў нічога, каб гэта зьмяніць. Надалей выезд у Польшчу альбо Летуву папярэджваецца шматгадзінным чаканьнем ў кіламетровых чэргах.

Напярэдадні прыезду Альгірдаса Бразаўскаса ў Польшчу, Лех Валенса сьцьвердзіў, што "да 2000 году ён хацеў бы заараць мяжу з Летувой". Гэтая даволі нечаканая прапанова сустрэлася з поўным разуменьнем летувіскага прэзідэнта: "Я таксама хацеў бы, каб нашая мяжа была заараная, але не так, як гэта было на працягу апошніх 50 гадоў", - сказаў ён у Варшаве.

Назіральнікаў задаволілі гэтыя сьцьвярджэньні, бо яны дадаюць барваў афіцыйнаму тону паведамленьняў пра ход сустрэчаў на вышэйшым узроўні. Тым больш, што каларыт выказваньняў абодвух прэзідэнтаў можа мець глыбейшае значэньне. Падчас сустрэчы з Валенсам, Бразаўскас прапанаваў утварыць сталыя рабочыя групы, якія назіралі б за сітуацыяй на межных пераходах, а ў Сейме казаў пра супольны кантроль паветранага абшару і марскіх межаў.

Калі ў бліжэйшым часе гэтыя прапановы будуць рэалізаваныя, то першы візіт у Польшчу прэзідэнта незалежнай Летувы будзе не толькі дыпламатычным абменам поглядамі.

А.А.

## ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

### ДВА ВІЗІТЫ Ў АДЗІН ДЗЕНЬ

Днямі ў Варшаву адначасова прыбылі прэзідэнт Летувы Альгірдас Бразаўскас і расейскі прэм'ер-міністр Віктар Чарнамырдзін. Абодва візіты надзвычай важныя для Польшчы - з пункту гледжаньня палітыкі і эканомікі - і таму шматлікія каментатары задаваліся пытаньнем, што сталася з каардынацыяй польскай замежнай палітыкі. На гэтую тэму даўно ўжо вядуцца дыскусіі над Віслай, але тое, што адбылося на мінулым тыдні - два візіты ў адзін дзень - польскія каментатары назвалі сымболем хаосу, які пракраўся ў палітыку.

### ЦЬВЁРДЫЯ ПОЛЬСКА-РАСЕЙСКІЯ РАЗМОВЫ

Расейскі прэм'ер-міністр меў намер прыехаць у Варшаву яшчэ ў траўні мінулага году. Інцыдэнт з расейцамі, які адбыўся ў лістападзе мінулага году на Усходнім чыгуначным вакзале ў Варшаве, стаў для Масквы выгадным прэтэкстам, каб замарозіць польска-расейскія дачыненьні яшчэ на нейкі час. Калі б не вайсковая авантура ў Чачні, кабінетны крызіс у Польшчы быў бы чарговай нагодай, каб адкласьці сустрэчу. Але Масква хоча давесьці, што, не гледзячы на свае праблемы, яна робіцца надзейным партнёрам на міжнароднай арэне.

Сітуацыя расейцаў была палегчана тым, што тэмай размоваў мела быць эканоміка. Раптам Расея сталася адной з першачарговых партнёраў Польшчы ў гандлі, а ў дастаўках сыравіны - амаль незамянімай. Калі верыць ацэнцы прэм'ер-міністра Польшчы Вальцемара Паўляка, у Варшаве адбыліся цьвёрдыя размовы. Іх плёнам было пагадненьне пра будаўніцтва траньзітнага газапроваду з Расеі ў Заходнюю Эўропу. Нямецкі апетыт на расейскі газ дае Польшчы гарантыю, што ніхто на Усходзе зьнянацку не закруціць кранаў.

Разьбежнасьць падцьвердзіла адсутнасьць двух пагадненьняў, пра якія гаварылася раней, якія датычаць рыбалоўства, а таксама спецыяльных або вайсковых паставак. "Міністры вызначылі сустрэчу на Ахоцкім моры адносна марскога рыбалоўства ўдалай", - раслумачыў В.Паўляк. А вось пра вайсковыя пастаўкі ён не абмовіўся і словам.

### ДА БЕЛАРУСІ СТРАЧВАЮЦЬ ДАВЕР

Нямала месца прысьвяціла польская прэса візіту Барыса Ельцына ў Менск. Неаднаразова пісала пра гэта "Газета Выборча". Орган польскага войска - "Польска збройна" - зьвярнула ўвагу чытачоў на тое, што "гэта можа быць пачаткам стварэньня новага вайсковага згуртаваньня за нашай усходняй мяжой". Камянтар газеты сьцьвердзіў, што, "прымаючы да ўвагі на непасрэднае суседзтва, аналіз гэтага мае вялікае значэньне дзеля Польшчы, якая ўсё яшчэ застаецца у "шэрай зоне" эўрапейскай бясьпекі". Польскае радыё, камянтуючы апошнія падзеі на Беларусі, падкрэсьліла факт адыходу Беларусі ад супрацоўніцтва з заходнімі краінамі.

### НЕБЯСЬПЕЧНАЯ ВАРШАВА

На працягу апошніх тыдняў у Варшаве адбылося некалькі выбухаў "аўтамабіляў-пасткаў", у выніку якіх загінулі тры асобы. На думку паліцыі, выбухі сьведчаць пра ход жорсткай гангавай вайны. Рэзкі ўзрост колькасьці падобных злачынстваў прыйшоўся акурат на той час, калі польская паліцыя перажывала цяжкі перыяд. Большасьць паліцыянтаў сьцьвярджае, што сродкаў, якія выдзяляюцца на барацьбу з тэрарызмам, не хапае нават каб забясьпечыць палову патрэбаў.

### РАСЕЙСКАЕ ПАСОЛЬСТВА СПРАБУЕ ЗАЧЫНІЦЬ ІНФАРМАЦЫЙНЫ ЦЭНТР

Расейскае пасольства ў Варшаве патрабуе зачыніць Чачэнскі інфармацыйны Цэнтр, які дзейнічае ў Кракаве. Польскае Міністэрства замежных спраў лічыць, што кракаўская акцыя гуманітарнай дапамогі дзеля Чачні дзейнічае дзякуючы прыватным асобам, і Міністэрства, у сувязі з гэтым, не мае на інфармацыйны Цэнтр ніякага ўплыву.

Прэс-сакратар МЗС Польшчы паведаміў, што 13 лютага Міністэрства атрымала ноту расейскага пасольства, у якой патрабуюць зачыніць чачэнскае інфармацыйнае бюро. У ноце прыведзеныя між іншым прозьвішчы чачэнскіх грамадзян, якія кіруюць цэнтрам. Міністэрства адказала, што ў Кракаве паўстала група, якая займаецца каардынацыяй гуманітарнай дапамогі дзеля ахвяраў вайны ў Чачні.

Прэс-аташэ расейскага пасольства Рыгор Якіміцын палічыў гэты адказ незадавальняючым і дадаў, што цяжка лічыць гуманітарнай акцыяй арганізацыю дэманстрацыі, якая мела месца ў Кракаве.

### МІЖНАРОДНЫ СЕМІНАР

У Супрасьлі (беластоцкае ваяводзтва) адбыўся трохдзённы семінар "Шанцы і пагрозы ў эканамічным супрацоўніцтве з Летувой, Беларусьсю і Расеяй". Удзел у ім узялі 55 прадстаўнікоў польскіх прадпрыемстваў і 30 фірмаў з Калінінградчыны, Летувы і Беларусі. Падчас семінару абмяркоўваліся прынцыпы дзейнасьці і супрацоўніцтва прадпрыемстваў, разьлікі імпартных і экспартных трансакцый, а таксама мытныя і падаткавыя правілы. Галоўным арганізатарам сустрэчы было прадпрыемства "Мактон" з Беластоку.

### КРЭСАВЯКАМ - ЗА СТРАТЫ

Старшыня Таварыства Крэсавякаў-крадыфораў Дзяржаўнага Казначэйства Збігнеў Касшыкоўскі паведаміў на днях, што Таварыства падрыхтавала праект закону аб кампенсацыях дзеля крэсавякаў.

Праект прадбачвае выплату кампенсацый за маёмасьць, страчаную пры парушэньні юрыдычных нормаў, усім польскім грамадзянам, якія перад Другой сусьветнай вайной пражывалі на тэрыторыях, што былі перададзеныя Савецкаму Саюзу. Гэта датычыцца Абліґацый Дзяржаўнага Казначэйства, акцый прыватызаваных прадпрыемстваў альбо маёмасьці, затрыманай на мытнях.

А.А.

## УКРАІНА

### КІЕЎ

"Патрабуем неадкладнага выхаду Украіны з СНД", - гаворыцца ў распаўсюджанай 27 лютага заяве Кангрэса Украінскіх Нацыяналістаў.

Аўтары заявы выступаюць таксама за спыненьне ядзернага разбурэньня Украіны, перагавораў з Расеяй аб падзеле Чарнаморскага флоту і падрыхтоўцы дагавора аб дружбе і супрацоўніцтве з Расеяй. Яны патрабуюць устанаўленьня рэжыма закрытай мяжы між дзяржавамі.

Падставай для заявы стала інтэрв'ю У.Жырыноўскага, надрукаванае 26 лютага ў газеце "Всеукраинские ведомости". У ім лідэр ЛДПР заявіў, што "российская армия придёт на Украину, уничтожит всё на своём пути и поставит свои гарнизоны в тех городах, где оказывали сопротивление".

### ЗАПАРОЖЖА

Зямельны надзел, які належыць былому палітзаключанаму А.Маляру, з выкарыстаньнем фізічнай сілы захапіла група хуліганаў. Пра гэта паведамляецца ў распаўсюджанай 27 лютага заяве Запарожскага саюза абароны правоў чалавека. Заява адрасавана пракуратуры горада. Яго аўтары сьцьвярджаюць, што на чале групы стаіць В.Альховіч, які "ў застойныя гады дапамагаў кампетэнтным органам выяўляць воргаў сацыялістычнага строю". На тэрыторыі захопленага ўчастка Альховіч мае намер пабудаваць дом. Ён пагражаў А.Маляру забойствам, у выпадку, калі той "посмеет кому-либо жаловаться". А.Маляр зьяўляецца інвалідам другой групы.

"Э.-Х."

## РАСЕЯ

### ЧАЧЭНЦАЎ ЗАХОПЛІВАЮЦЬ У ЗАКЛАДНІКІ

25 тысяч мірных жыхароў загінула падчас агрэсіі расейскага войска ў Чачне.

Менавіта гэтыя дадзеныя прывёў на грамадзянскіх слуханьнях член групы "За мір і свабоду, супраць кровапраліцьця ў Чачне" Эдуард Гэльман. Таксама выступаўшы на слуханьнях член Савета праваабарончага цэнтру "Мемарыял" Алег Папоў давёў прысутным, што ў створаных у Чачне фільтрацыйных лагерах шырока скарыстоўваецца падчас пытак электрычны ток і пабоі. Мясцовыя жыхары разгледжваюцца расейскімі ваеннаслужачымі як закладнікі.

### ЖУРНАЛІСТАЎ ЗНОЎ ПРАСЬЛЕДУЮЦЬ

Маскоўская філія Фонду абароны галоснасьці распаўсюдзіла заяву аб тым, што Фонду абароны галоснасьці вядома болей як 130 выпадкаў прасьледаваньняў журналістаў, якія працуюць у Чачне.

"Э.-Х."

## ПЯЦЬ ГАДОЎ У ІСПАНІІ

Сабонісы жывуць у Іспаніі ўжо пяць гадоў, у Мадрыдзе - два. Клуб "Рэал" наймае для іх вельмі прыгожы, як гаворыць Інгрыда Сабонене, якая была нядаўна ў Летуве, вялікі двухпавярховы дом амаль у самым цэнтры сталіцы.

У Вільядалідзе, прыкладна у двухстах кіламетрах ад Мадрыда, дзе Сабонісы жылі раней, у іх засталася крама электратавараў. "Ёсьць у нас і іншыя планы, - распавядае Інгрыда, - бо кар'ера баскетбаліста можа, не дай Бог, перарвацца ў любы мормант з-за траўмы". Цяпер, паводле слоў жонкі, Арвідас знаходзіцца ў цудоўнай спартыўнай форме. З "Рэалам" Сабоніс падпісаў кантракт і на гэты год. Аднак фінансавая сітуацыя клуба сёньня даволі цяжкая, і невядома, што прапануе яго кіраўніцтва летувіскаму баскетбалісту за год.

У Малазе, якая знаходзіцца ў шасьцістах кіламетрах ад Мадрыда, у Сабонісаў два пакоі на вялікай віле ля мора. Паводле слоў Інгрыды, асобная віла на ўзьбярэжжы - гэта вельмі дарага. З Іспаніяй Сабонісы сваю будучыню не зьвязваюць. "Мы вернемся ў Летуву", - падкрэсьлівае Інгрыда. Некалькі гадоў таму яна марыла адкрыць на радзіме салон для маладых, аднак цяпер бачыць, што сітуацыя ў Летуве зьмяняецца вельмі хутка.

У Іспаніі дні праходзяць у клопатах пра дзяцей. Яна нават не ведае, які вобраз жыцьця вядуць іншыя жанчыны ў гэтай краіне. "Я жыву клопатам сваёй сям'і, мая тэрыторыя - гэта дом і сад. Пагэтаму мне ўвогуле ўсё роўна, дзе жыць". Дзеці, паводле яе слоў, яшчэ не ведаюць, што такое Іспанія і што такое Летува.

У Іспаніі Сабонісы сябруюць з сям'ёй Хасэ Бірукова. 32-гадовы Хасэ таксама гуляе ў мадрыдзкім "Рэале". Ён прыехаў у Іспанію з былога Савецкага Саюза дзесяць год таму назад, цяпер ужо атрымаў грамадзянства гэтай краіны. У Мадрыдзе жывуць і Курцінайцісы - Рута і Рымас. Дамы Сабонісаў і Курцінайцісаў - у дзесяці хвілінах хадзьбы.

Пасьля завяршэньня спартыўнай кар'еры Арвідаса, Сабонісы маюць намер пераехаць у Каўнас, дзе ў іх ёсьць дом. "Я з большай ахвотай вярнулася б у Вільню, - распавядае Інгрыда, - аднак Арвідас ніколі не пагадзіцца жыць там". Праўда, пра будучыню ў сям'і Сабонісаў гавораць рэдка. Паводле слоў Інгрыды, такія размовы азначалі б, што Арвідасу ўжо трэба разьвітацца з баскетболам.

На пытаньне, ці ведаюць у Іспаніі Сабоніса, Інгрыда адказвае: "Яны яго вельмі любяць. Пешшу мы звычайна не ходзім, а калі ўвечары ў рэстарацыі, дык стараемся сесьці ў куток, каб не кідацца ў вочы". У Летуве людзі больш стрыманыя: убачыўшы Арвідаса яны толькі затрымліваюцца і глядзяць здалёк. А іспанец павінен падыйсьці, памацаць рукамі, падсунуць любую паперку - для аўтографа. І паспрабуй толькі адмовіць...

А як было б у Беларусі?..

Уладзіслаў СТРУМІЛА.

## ПАЛЯКІ ЦІКАВЯЦЦА БЕЛАРУШЧЫНАЙ

**У Варшаве адбыўся чарговы - трэці - кірмаш гістарычнай кнігі, галоўнай мэтай якога зьяўляецца яе папулярызацыя. Кожны наведвальнік кірмашу меў магчымасьць пазнаёміцца і купіць новыя выданьні па цэнах значна ніжэйшых, чым праз некалькі тыдняў у крамах. Багацьцем прапанаванай літаратуры вылучыліся многія выдавецтвы, але найбольш арыгінальным было выдавецтва "Грыф". Пра зацікаўленьне польскага чытача літаратурай на тэму гісторыі Беларусі, Украіны альбо Летувы мы запыталі шэфа выдавецтва спадара Паўла Южву.**

- Зацікаўленасьць даволі вялікая. Насуперак таму, што цяпер усе кажуць, маўляў, Польшча глядзіць толькі на Захад, надалей існуе вялікае зацікаўленьне усходняй праблематыкай, гісторыяй Беларусі, Украіны і Расеі. На сёньняшні дзень мая кнігарня - адзіная, якая прывозіць кнігі з розных краінаў. Як на вымаганьні палякаў, гэтага мала, бо ў параўнаньні да веданьня мовы, асабліва беларускай ці украінскай, цікаўнасьць людзей надта вялікая. Гэта падцьвярджаецца тым, што апошнім часам усё часьцей мы атрымліваем замовы на кнігі на гэтых мовах. І гэта не толькі бібліятэкі, але і прыватныя асобы. Мая кнігарня спецыялізуецца на гістарычнай літаратуры, але думаю, што і белетрыстыка карысталася б папулярнасьцю. Гэта ўжо сталы працэс, і зацікаўленасьць, я ўпэўнены, будзе ўзрастаць.

**- Як вы думаеце, зацікаўленьне падобнай "нетыповай" гістарычнай літаратурай ідзе ў напрамку гісторыі дадзеных народаў, ці гэта хутчэй зацікаўленьне былымі "польскімі крэсамі"?**

- Не. Я сказаў бы, што існуе зацікаўленьне былымі "польскімі крэсамі", бо натуральным чынам уся польская культура зьяўляецца культурай памежжа. Таму заўжды ў нас будзе зацікаўленьне праблематыкай "крэсаў". Але з гэтага вынікае і цікавасьць палякаў да гісторыі беларусаў альбо ўкраінцаў. Зрэшты, на польскай мове выдаецца таксама шмат кніг пра гісторыю гэтых дзяржаў, але гэта не зьніжае зацікаўленьня кнігамі, навуковымі працамі менавіта на мовах арыгіналаў. Мне здаецца, што рэч зусім не ў тым, што на старонках тых ці іншых кніг зьяўляюцца таксама і палякі. Лёсы нашых людзей, нашых народаў моцна сплеценыя, так што тут нічога дзіўнага няма.

**- Сапраўды, на працягу апошніх гадоў вышла шмат цікавых кніг пра гісторыю Беларусі. Як вы думаеце, ці сьведчыць гэта пра ўсё большае зацікаўленьне палякаў гісторыяй суседзяў з Усходу? Можа гэта звычайны працэс зафарбоўваньня "белых плямаў" у гісторыі?**

- Дзьве згаданыя вамі справы накладаюцца адна на адну. Несумненна, гэта і "замалёўваньне" прабелаў у гісторыі, бо ў камуністычныя часы гэткія кнігі проста не маглі друкавацца; ўсё тады кіравалася цэнтрам. І толькі зараз ёсьць шанс падправіць недахопы за апошнія 45 гадоў. Да гэтага трэба дадаць зацікаўленьне культурамі суседзяў. Дарэчы, пераважная большасьць кліентаў маёй кнігарні - моладзь. Ваеннае пакаленьне ўжо адыходзіць, яго цікавяць кнігі, што асьвятляюць падзеі Другой сусьветнай вайны , а людзі ў сярэднім узросьце і моладзь, натуральна, цікавіцца сучаснасьцю.

**- Дзякуй за размову.**

Аляксандр АЙНА.

## ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ

# «СТАРАЎСЯ БЫЦЬ ЧЫСТАЙ І ПРОСТАЙ МЫСЬЛІ...»

**Ёсьць людзі, пра якіх ніколі не будзе напісана дастаткова, таму што немагчыма апісаць словамі ўсю веліч іх зьдзяйсьненьняў. Усё гэта ў поўнай ступені можна аднесьці да нашага славутага земляка, беларускага каталіцкага сьвятара і паэта, грамадзкага дзеяча Казіміра Сваяка (ксяндза Кастуся Стэпановіча), 105-я ўгодкі з дня нараджэньня якога былі ўшанаваныя на навуковай канферэнцыі "беларускія каталіцкія сьвятары і нацыянальнае Адраджэньне пачатку XX стагоддзя". Чалавек гэты пражыў кароткае, але яркае, напоўненае духоўнымі подзьвігамі жыцьцё, асобныя старонкі якога мы і нагадаем у гэтым артыкуле.**

Нарадзіўся Казімір Сваяк 19 лютага 1890 года на Астравеччыне ў вёсцы Барані. Пра дзяцінства паэта распавядаюць радкі яго аўтабіяграфіі.

"...Радзіўся я ...з бацькоў сялян павалочнікаў. Да гадоў 10, гэта значыць да скančэньня народнай школы, мусіў прайсьці ўсе беды і журбы сялянскага дзяцінства, каторае мае навучыцца цяжкай працы хлебароба. Якісь час жылі мы ў глухім засьценку, як арандатары, закінутым у глухім лесе..."

У гэты час малому Кастусю прыйшлося выконваць ролю памочніка пастара Марціна, які быў фактычна першым настаўнікам будучага песьняра. Дзед гэты ведаў шмат беларускіх казак і прыпевак. Магчыма, менавіта ён заклаў у душы хлопчыка прагу да ведаў, любоў да роднай зямлі, роднай мовы.

..."Добры тата мой, зарабіўшы на сырах і масьле з карой, што ...трэба было мне ганяць па райстох, і атрымаўшы дапамогу з двара, дзе век свой быў лоўчым, пастанавіў мяне аддаць "у навуку". Таму, пасьля скančэньня пачатковай школы ў роднай вёсцы, Стэповіч трапляе ў мястэчковую школу ў Сьвенцяны, а ў 1907 годзе паступае ў Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю. Тут, у Вільні, ён далучаецца да беларускага адраджэнцкага руху, які гуртаваўся вакол рэдакцыі "Нашай Нівы".

Аддаючы ўсе сілы вучобе, у 1912 годзе малады асьпірант захварэў на сухоты і вымушаны быў амаль два гады лекавацца ў польскім горадзе Закапанэ. Менавіта ў 1912-13 гадах Кастусь Стэповіч распачынае актыўную літаратурную дзейнасьць. Першы свой верш па-беларуску, які называўся "На імяніны майго пробашча" паэт напісаў 23 кастрычніка 1912 года. Пачынаючы з 1913 года яго творы стала зьяўляюцца на старонках беларускай каталіцкай газеты "Беларус". На старонках гэтага выданьня ўбачылі сьвет такія артыкулы Кастуся Стэповіча, як "Алкаголь", "Што такое пакора", "Гутарка аб нашай "простай мове", а таксама вялікая колькасьць іншых публіцыстычных і паэтычных твораў паэта. Частка вершаў, апублікаваных у "Беларусе", увайшла ў выдадзены ў 1924 годзе зборнік вершаў паэта "Мая ліра".

Вясной 1915 года біскуп Цэпляк у Петраградзе высьвяцьціў Стэповіча на ксяндза.

"...Першы мой вікарыят быў у Камаях Сьвенцянскага павету. З месяц па прыезьдзе туды прыйшла нямецкая акупацыя. Побыт мой аказаўся там лішнім.. Я пабываў тады цэлы год у сваёй роднай парафіі Клюшчанах".

Што ж уяўлялі сабой Клюшчаны, гэтае невялічкае мястэчка на Астравеччыне на пачатку XX стагоддзя? Вось як апісвалі клюшчанскую парафію самі яе жыхары:

"...Парахвія гэнна невялікая і мае ў сабе толькі ўсяго каля трох тысяч душ. Засяляюць яе беларусы-каталікі... У нас людзі - як людзі. Гаспадаруюць так сабе: ні добра, ні дрэнна... Ёсьць тут свой парахвіяльны касьцёл, пакуль што драўляны... Прыйшоўны ў Клюшчаны, пабачыш вялікі нялад: моладзь разьбіўшыся на некалькі грамадкаў... Найбольшую грамаду становіць беларуская моладзь - больш 80%. Другая частка - ліцьвіны - 13%, а рэшта - нашая шляхта... Некаторыя праз сваю цемнату лезуць у шляхецкую шкуру і цураюцца роднай мовы... Уся беларускасьць у Клюшчанах маніфеставалася дзесяткам экзэмпляраў "Беларусі" ды "Нашай Нівы".

У Клюшчанах малады ксёндз Стэповіч сустрэў вельмі цёплы прыём, бо быў добра знаёмы мясцовым людзям. У нядзелю 31 мая 1915 года ў мясцовым парафіяльным касьцёле адбылася прымі́цыя маладога ксяндза. Вось як апісвае гэтую падзею адзін з яе сведкаў:

"...У працэсіі харошай перанялі яго (кс.Стэповіча) і ўвялі ў касьцёл, дзе меў афяраваць Найвысшаму першую імшу. Заграў на хорах гімн "Вені Крэатар" - як пры шлюбе. Бо і ўзапраўду гэта быў шлюб маладой душы з Хрыстусам. У чыстай гармоніі ходу чувацць, здаецца, былі словы прыязьні: "Не пакіну цябе, Божа, аж да сьмерці". Пачалася імша. Выйшаў ксёндз з навукай. Не абяцаў ён прыміцыянту ў жыцьці ружаў... Па скончанай Найсьвентшай аферы пачалося благаслаўленьне. Далоні, што прад хвілінай трымалі Хрыстуса, прыміцыянт складаў на галовы людзей. Па тварах яго каціліся сьлёзы. А хор тым часам сьпяваў:

Сэрца Езуса з намі
Чэсьць яму хай будзе на векі
Сэрца нам даравау Ён
Каралём няхай будзе на зямлі і ў небе.

...Такая хвіля ніколі не выходзіць з памяці, будзе аб ёй помніць і наша парафія".

19 чэрвеня 1915 года газхета "Беларус" зьмясьціла віншаваньне маладому ксяндзу з нагоды прыміцыі ад жыхароў Клюшчан. У гэтым віншаваным дапісе між іншым гаварылася:

"...Ксёндз прыміцыент ёсьць знаны многім у нас, як здабыўца сэрц беларускаў, каторыя ўжо былі адвернулі насы ад бацькаўшчыны... Гэты ж кесёндз найболей прычыніў да пастаўленьня паравільнага хору ў Клюшчанах... Ад усіх добрых парафіянаў, а ад сьпевакоў і сьпявачак найперш, належыць яму слова шчырай падзякі".

М сапраўды, Кастусь Стэповіч быў стваральнікам аднага з першых беларускіх парафіяльных хораў. Сам ксёндз вельмі любіў сьпевы і ўсё, што з імі зьвязана. Меў да гэтага добры слых і проста цудоўны лірычны голас, тэнар. Не было чужым яму і мастацтва дырыжваньня. тамy заўсёды ў вольную хвіліну дзе б не знаходзіўся Кастусь плылі звонкія гукі "Гусей", "Чырвонай Каліначкі", "Салавейкі", "Зялёнага дубочка". Пяючы апошнюю, Стэповіч любіў падкрэсьліць, што гэта любімая песьня яго маці.

Летам 1915 года Клюшчаны былі закранутыя вірлівымі падзеямі першай сусьветнай вайны. Але жыцьцё ў мястэчку працягвалася. Людзі працавалі штодня, а ў нядзелю і вольныя часіны цягнуліся ў касьцёл, да свайго сьвятара, які "... у бязладдзі і нэрвознасьці падтрымоўваў маральна сваіх прыхаджан, даючы ім надзею на лепшае жыцьцё".

Асабліва цягнулася да маладога ксяндза моладзь. Менавіта ў яе асяроддзі Кастусём Стэповічам быў створаны нелегальны гурток - Хаўрус Сваякоў. Складаўся Хаўрус з людзей вальнейшых ад штодзённай працы на хлеб, а галоўнае маючых хоць бы мінімальную падрыхтоўку ад працы на беларускай ніве. Кіраваўся Хаўрус прэзыдыумам, у які, дарэчы, сам Кастусь Стэповіч (які ўсё больш станавіўся вядомым як Казімір Сваяк) не ўваходзіў. Першай задачай арганізацыі была самаадукацыя на асновах хрысьціянскай этыкі. Дзеля гэтага сябры Хаўруса рыхтавалі і чыталі рэфераты на розныя тэмы, ладзілі канцэртна-дэкламацыйныя сходкі, арганізоўвалі прадстаўленьні, народныя бібліятэкі, апекавалі школкі. Пакольк Хаўрус быў суполкай нелегальнай, кожны сябра яго меў псеўданім. На жаль, нам невядомы зараз сапраўдныя імёны гэтых людзей. Гісторыя захавала толькі іх псеўданімы: Роміч - таленавіты мастак-пейзажыст, які памёр ад сухотаў 29 лютага 1924 года; Лаўровы - таленавіты сатырык; Астра, Орліч, Яхіміч, Альфіч - аўтар напісаных у 1926 годзе ў Празе ўспамінаў пра К.Стэповіча і пра сваю сумесную з ім дзейнасьць у Хаўрусе.

Які ж уплыў зрабіў Хаўрус на жыцьцё мясцовага насельніцтва? У перадваенны час уся беларускасьць у Клюшчанах зводзілася да дзесятка экзэмпляраў беларускіх газет, палова з якіх аплочвалася невядома кім. Аб нечым большым і гаворкі не было. Усё пачало зьмяняцца з прыездам Казіміра Сваяка. Дзякуючы яго намаганьням, у парафіі, пасьля сходу расейскіх войскаў, стварылася 6 беларускіх школак, у якіх пачатковая навука давалася па-беларуску, а старэйшым дзецям - і па-польску. Не хапала настаўнікаў - Стэповіч зладзіў настаўніцкія курсы; не хапала падручнікаў, школьных прыладаў - малады ксёндз за апошнія грошы прывозіў іх з Вільні.

Аб інтэнсіўнасьці культурна-асьветніцкай працы Кастуся Стэповіча і Хаўруса Сваякоў сьведчыць, між іншым, той факт, што першае беларускае прадстаўленьне ў Заходняй Беларусі пасьля прыходу немцаў адбылося не ў Вільні, а ў... Клюшчанах! На гэтай імпрэзе, падрыхтаванай мясцовай беларускай моладдзю, гучалі беларускія вершы, асабліва Багушэвіча, граліся невялікія спектаклі, якія суправаджаліся сьпевамі хору, які выконваў беларускія народныя і рэлігійныя песьні. Яшчэ з 21 лістапада 1915 года клюшчанскі ксёндз добрую частку казаньня вёў на роднай беларускай мове, што не магло выклікаць захапленьня з боку як мясцовых палякаў, так і з боку прыпольскіх духоўных уладаў. Таму ў 1916 годзе Кастусь Стэповіч быў прызначаны вікарыям у Карыці.

Цяжкім было развітаньне з роднымі мясьцінамі. Як бы прадчуваючы блізкую сьмерць, наведаў сьвятар могілкі сваіх бацькоў. Вось як прыгожа апісала іх рука паэта:

"...Адчыніў я шырокую браму магільніка. Простая палісада дзеліць яго напал. На ўзгорку - статуя Маткі Божай з скрыжаванымі рукамі на грудзёх. Дрэў і дрэўцаў галіны прысланяюць рады крыфжоў, драўляных, простых... Між дрэў нкйстарэйшы - клён, пасярэдзіне магільніка. Пад ім яшчэ ніхто не ляжыць. Там месца для мяне... Хацеў бы, каб на магіле маёй напісалі: "Кс.Канстанцін Стэповіч. жыў гадоў Н.Н. Стараўся быць чыстай і простай мысьлі..."

У Карыціне Стэповіч знаходзіўся ад паловы 1916 да вясны 1918 года. Здароўе яго, слабое і да гэтага, тут значна пагоршылася. Пачаўся моцны ўплыў крыві з лёгкіх. Гэта прымусіла беларускага сьвятара доўгіх шэсьць месяцаў правесьці ў ложку, а затым зноў шукаць паратунку ў "сталіцы сухотаў" - Закапанэ, дзе ён прабыў да зхімы 1919 года. У 1920 годзе, падчас прыходу бальшавікоў, Стэповіч зноў кароткі час знаходзіўся ў Клюшчанах. Затым, калі сюды прыйшлі літоўскія войскі, замяшчаў ??? ў Буйвідзах і ў Засьвіры. Часта адведваў Закапанэ, аднак хвароба ніяк не хацела адпускаць сваю ахвяру. У канцы красавіка 1926 года па прозьбе хворага яго сябры перавезьлі Стэпановіча, пераносячы на насілках з вагону ў вагон з Закапанэ ў Літоўскую клініку ў Вільні. 6 траўня Кастуся Стэповіча не стала. 8 траўня адбылося пахаваньне беларускага сьвятара і паэта. Вось як апісаў гэтую падзею адзін з паплечнікаў Стэповіча кс.Адам Станкевіч:

"...Сумна зазванілі званы св.Мікалая, жалосна зайгралі арганы, паліліся шчырыя сьлёзы з вачэй многіх. Гэта хаўтуры К.С. Імшу адправіў кс.Халак, дзіякан са Сьвіра. На разьвітаньне жалобнае слова сказаў Ад.Станкевіч. Урэшце вынас цела. На чале кс. доктар Ф.Абрантовіч, пралат Капітулы Пінскай, галава беларускага каталіцкага духавенства. Далей хор беларускай моладзі і вянкі: ад ксяндзоў-беларусаў; ад беларускай гімназіяльнай моладзі; ад "Крыніцы" і ад Тымчасовай беларускай Рады; ад радні; ад бел.студэнцтва. Магілкі Роса. Сьвежая магілка на Літэрацкай горцы. Ізноў пачаліся сьлёзы. Прымаўлялі: І.Савіцкі - ад імя Бел.Нац.Камітэту, Кс.К.Чыбірас - ад імя літоўцаў, Кс. В.Гадлеўскі - ад імя ксяндзоў-беларусаў, Кс. Е.Рэшэць - спаўнільнік астатняга жаданьня паэта, каб у трох мовах былі прамовы над гербам яго, прамовіў па-польску, бо з ксяндзоў-палякаў на могілках ніхто не знайшоўся. Б.Рагуля ад імя бел.Сялянскага Саюзу; А.Паўлюкевіч - ад Бел.Тымчасовай Рады; А.Зянон - ад бел.студэнцтва і ад вучнёўскай моладзі - Фр.Грынькевіч".

Цяжка скалыхнула вестка аб сьмерці Казіміра Сваяка і жыхароў клюшчанскай парафіі. Пётр Чарняўскі з Клюшчан, у сваім лісьце ў "Беларускую крыніцу", пісаў:

"Дня 6.5.1926 г. а гадзіне 2-й па палудні далецела да нас сумная вестка, у каторую ніхто з нас не верыў. Гэта была сьмерць нашага суседа, нашага змагара за лепшую долю. Яго цела спачывае, але мысьлі яго бродзяць ад хаты да хаты, узмацняюцца ў душы іншых, уступаюць у слаба бьючыя сэрцы санлівых сялян і змушаюць іх да энергічнейшага быцьця. Можа гэта сьмерць нам пакажа, што пара ўжо нам прачнуцца, аценіць тую страту, якую наносім праз сьмерць кс. К.Стэповіча. Ён сьвяціў нам, ідучы ўперадзе нас. Сьпі ж спакойна, змагар наш. Цябе змучыла работа, твае рукі апалі і паходня, якую ты нёс наперадзе, зваліася на зямлю і цемра хвілёва агарнула нас, але мы паднясём яе, жарчэй распалім, хай відзяць ворагі сьвятло, што дзела тваё не згасла, што тысячы рук пачынае сьвяціць..."

І сапраўды, паходню, якая выпала з рук Казіміра Сваяка, падхапілі яго паплечнікі, якія працягнулі справу гэтага беларускага сьвятара і паэта. І ў тым, што зараз мы жывем у незалежнай дзяржаве, ёсьць значная заслуга Сваяка і іншых беларускіх сьвятароў, сьветлая памяць якіх была ўшанаваная на зладжанай музеем гісторыі рэлігіі і Гарадзенскай філіяй фонду імя Льва Сапегі навуковай канферэнцыі, якая адбылася 16 лютага.

**Вітаўт РУДНІК,**
**сябра фонду імя Л.Сапегі.**

## МЯЧЭЦЬ У НЬЮ-ЙОРКУ ЗБУДАВАЛІ БЕЛАРУСКІЯ ТАТАРЫ

Больш за сто год у цэнтральным раёне Нью-Йорка стаіць драўляная мячэць. Мясцовыя гісторыкі схілены лічыць гэты невялікі будынак з мінарэтам і паўмесяцам архітэктурным помнікам татараў-эмігрантаў з Паволжжа. Але, калі пільна прыглядзецца, то можна заўважыць тыя акалічнасьці, якія даказваюць памылковасьць афіцыйнай версіі. Першае, што адразу ж трапляе ў поле зроку - гэта не накіраванасьць мячэці міхрабам на Паўднёвы Усход, як гэта тыпова для культавых будынін мусульман Усходу, а наадварот, - міхраб наваёрскай мячэці скіраваны на Поўдзень, што адпавядае культавым традыцыям татараў Вялікага Княства Літоўскага. Інтэр'ер храма таксама мае Вялікакняскія адценьні. Асабліва гэта выяўляецца ў тыпова беларускіх мугірах, што аздабляюць сьцены мячэці. Да таго ж пропаведзі па пятніцах гучаць тут на старaславянскай мове, што служыць яшчэ адным доказам, што драўляную мячэць у цэнтры гэтага буйнога амэрыканскага горада збудавалі беларускія татары.

**Юсуф Мірза КРЫНІЦКІ.**

## У СТАРЭЙШАЙ ТАТАРКІ ВАШЫНГТОНУ БЕЛАРУСКІЯ КАРАНІ

Заіра Аляксандраўна Крыніцкая нарадзілася 15 сакавіка 1913 года. Бацька спадарыні Заіры - беларускі татарын з Горадні, маці - мусульманка па паходжаньню з ковенскіх татар.

Гістарычную радзіму Заіра Аляксандраўна пакінула ў 1916 годзе. Калі яе бацьку - палкоўніка царскага войска - накіравалі да ЗША з мэтай закупкі новых відаў узбраеньняў для фронту. Вярнуцца на радзіму Крыніцкія не пасьпелі, бо выбухнула Кастрычніцкая рэвалюцыя.

Сям'я часова разьмясьцілася ў былым будынку пасольства расейскай імперыі. На жыцьцё сям'я мела грошы дзякуючы прыватным урокам музыкі маці.

Заіра Аляксандраўна скончыла каледж, затым паступіла на бібліятэкарскі факультэт сталічнага універсітэта імя Джорджа Вашынгтона. Пасьля скончэньня вучобы працавала ў цэнтральнай бібліятэцы Кангрэсу ЗША.

У свае 82 гады З.Крыніцкая вядзе актыўнае жыцьцё: чытае лекцыі, ладзіць выстаўвы старaславянскіх друкаваных выданьняў, штотыдзень наведвае мячэць на "Масачусэт авеню" дзе вядзе сяпрод неграў-эмігрантаў асьветніцкую дзейнасьць. Пра радзіму ўспамінае так: "Беларусь я памятаю па аповядах таты і песьнях мамы".

**Г.К.**

# АПОШНЯЯ СТАРОНКА

## ДА СТАРТУ РУКОЙ ПАДАЦЬ

Пасьля таго, як лепшыя з лепшых нашых гульцоў ужо даўно аселі ў замежных футбольных клубах, у дарогу за лепшай доляй выправіліся астатнія з гэтай катэгорыі футбалістаў. У пошуках заробку ў Расею, Польшчу і больш далёкія краіны - Грэцыю, Нямеччыну і Ізраіль - пасьпелі зьезьдзіць многія нашы гульцы. Вось толькі спадабацца тамтэйшым трэнерам змаглі адзінкі. Да таго ж, на шляху пераходу некаторых футбалістаў у замежныя клубы, непазьбежна паўстане праблема з узроставым цэнзам - 23 гады, уведзеным нашай Федэрацыяй. Такая сітуацыя склалася і з пераходам аднаго з самых перспектыўных гульцоў Аляксандра Чайкі з "Дняпра" у маскоўскае "Дынама". Між тым, нягледзячы на ўсё, беларускія клубы рыхтуюцца да другой паловы чэмпіянату, вырашаюць спартыўныя ды іншыя задачы. Дарэчы, пазбавіўся асноўнага спонсару лідэр чэмпіянату - віцебскі "КІМ", на мяжы развала балансаваў ФК "Бабруйск" (былы "Фандок"). Хранічныя фінансавыя цяжкасьці ў "Лакаматыва" і "Гомсельмаша", які зараз застаўся без свайго лідэра - Андрэя Юсіпца,- Андрэй гуляе ўжо ў Нямеччыне. Тым часам спонсары не сьпяшаюцца на дапамогу футболу, бо заканадаўства дзяржавы не прадугледжвае падатковыя палёгкі для фірм і арганізацый, якія спансіруюць спорт.

Адносна няблага ў фінансавым плане выглядае толькі менскае "Дынама", якое пасьля правалу ў Маскве не здабыло славы і ў вандроўцы па Паўднёвай Амэрыцы.

З іншых падзей футбольнага міжсезоньня варта адзначыць не апраўдаўшую надзеі многіх спэцыялістаў і аматараў футболу справаздачна-выбарчую канферэнцыю, вяртаньне на Беларусь знакамітага Эдуарда Малафеева, а таксама прадстаўленьне яшчэ аднаму беларускаму клубу (хутчэй за ўсё - "Дняпру") магчымасьці пазмагацца ў новым Эўракубку - "УЭФА-Інтэрто та".

Ну і, ўрэшце, нагадаем, што адкрыюць вясновы сезон нашыя алімпійскія і нацыянальныя зборныя, якія 27-га і 28-га сакавіка ў Чэхіі правядуць чарговыя адборачныя гульні з гаспадарамі.

**Вітаўт РУДНІК.**



ПЕРШАЯ ЗАЦЯЖКА.

Фатаграфаваў І. Барысаў.

## «ОБЩАК» ЗАГАДАЎ ДОЎГА ЖЫЦЬ

Відавочна, што зарэгістраваны ўладамі Горадні ў красавіку 1994 года "прыватны фонд падтрымкі асуджаных", не праіснаваўшы і года, загадаў доўга жыць. Ва ўсялякім выпадку двойчы асуджаны З., які зарэгістраваў фонд, затрыманы міліцыяй у Пружанах Берасьцейскай вобласьці пры вельмі цікавых абставінах. Туды ён прыехаў з двума "кампаньёнамі".

Бацьку хлопца, які пагарэў на крыміналe, прапанавалі прадаць "Volvo", а грошы аддаць ім, быццам бы для дапамогі сыну. За гэтым міліцыя іх і павязала. Супраць З. узбуджана крымінальная справа за незаконнае нашэньне зброі.

Самае цікавае, што ўжо ў момант рэгістрацыі фонда, міліцыя папярэджвала, што гэта будзе своеасаблівы "воровской общак", бо ў статуце арганізацыі не закладзена ніякай дзейнасьці, акрамя дабрачыннай. Гарадзкія ўлады вырашылі па-свойму. Вынік відавочны.

**А.ІВАНОЎ.**

## СЬВЯТА Ў НАШАЙ ХАЦЕ

У гарадзенскім Палацы дзіцяча-юнацкай творчасьці адбыўся сьвяточны фэст пад назовам "Сёньня сьвята ў нашай хаце".

На ўрачыстасьць з канцэртнымі праграмамі прыехалі творчыя дзіцячыя калектывы са Слоніма і Слонімскага раёна, Ліды і Лідзкага раёна, а таксама юныя артысты са Шчучына, Воранава і Радуні.

Прывіталі ўдзельнікаў фэсту знакамітыя "Дударыкі".



Фундатарамі гэтай імпрэзы сталі КАФ "Бацькаўшчына" з Горадні, абласны навукова-метадычны цэнтр і аддзел культуры горада.

**НА ЗДЫМКУ:** удзельнікі фэсту на сцэне Палаца дзіцяча-юнацкай творчасьці.

**Фатаграфаваў: У.УЛАДАСЕВІЧ.**

## СПОРТ

### «НЁМАН» ВЫХОДЗІЦЬ У ЛІДЭРЫ

На адкрытым першынстве Расеі па хакею беларускія клубы "Нёман" з Горадні і "Памір" з Наваполацку правялі гульні між сабой. Фартуна ўсьміхнулася больш вопытным гарадзенцам, якія ў трох сустрэчах дабіліся перамогі 4:2, 6:2 і 7:2. Чацьвёртая гульня закончылася мірна - 2:2.

Пасьля гэтага посьпеху ХК "Нёман" мае 16 ачкоў і ўзначальвае турнірную табліцу.

**Г.В.**

### ХК «РЫТМ» АВАНСАВАЎ ДА ДЫВІЗІЁНУ «В»

Пасьпяхова выступілі на жаночым турніры па індорхакею ў Фінляндыі хакеісткі гарадзенскага ХК "Рытм". Нашы дзяўчаты, выступаючы ў дывізіёне "С", занялі другое месца і разам з пераможцай - расейскім клубам "Данчанка" - авансавалі да дывізіёну "В".

Гульні ў дывізіёне "В" адбудуцца ў наступным годзе. Ёсьць надзея, што яны адбудуцца менавіта ў Горадні.

**Г.Н.**

### ФУТБОЛЬНЫ ФЭСТ У ГОРАДНІ

У Горадні ўзяў старт традыцыйны зімовы турнір па футболу. Арганізавалі гэтае невялікае футбольнае сьвята гарадзенскі завод Карданных валаў і ФК "Белкарт".

У турніры возьмуць ўдзел шэсьць каманд - ФК "Нёман" і "Кардан-флаерс" з Горадні, "Дняпро" і "Трансмаш" з Магілёва, "Абутнік" з Ліды і "Тарпеда" з Жодзіна.

Фінальная гульня адбудзецца другога сакавіка.

* * *

Варатар нацыянальнай зборнай Беларусі па футболу - Валеры Шанталосаў - прадоўжыць сваю кар'еру гульца ў Шатландыі.

**Г.А.**

## КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

### ФАЛЬШЫЎКА "ЗАСЬВЯЦІЛАСЯ" У "КОМПЛЕКСЕ"

У Горадні затрымана жыхарка абласнога цэнтра. У абменным пункце "Комплекс-банка" на БЛК жанчына спрабавала збыць 100-доларавую купюру, якая аказалася фальшыўкай.

* * *

У кавярні "Утульнасьць", горада Скідаля, рабочы мясцовага ПМК Д., які знаходзіўся на падпітку, учыніў сапраўдны пагром. Зламаная ім мэбля пацягнула на круглую суму.

### КРАЛІ НА ХАДУ

У аддзел унутраных спраў Слонімскага райвыканкама зьвярнуўся жыхар Латвіі, вадзіцель фірмы. Ён растлумачыў, што на адрэзку дарогі Зэльва-Слонім невядомыя, разрэзаўшы тэнт прычэпа, скралі дзесяць тэлевізараў "Шарп". Зроблена гэта было на хаду, пад час руху аўтамашыны "МАЗ".

Міліцыя спрацавала аператыўна. Вылічылі месца, дзе знаходзілася частка схаваных тэлевізараў, зрабілі засаду. Калі злаўмысьнікі прыехалі за імі, злодзеяў "павязалі". Імі аказаліся сем жыхароў Зэльвенскага і адзін - Ваўкавыскага раёнаў. Праводзіцца расьследаваньне.

Прывычны стэрэатып зьдзяйсьненьня крадзяжоў уначы парушылі злаўмысьнікі, якія трапілі ў дзённы час у рэстаран "Турыст" Горадні. Злодзеі, хутчэй за ўсё дзеці, узялі 20 плітак шакаладу, 22 упакоўкі пячэньня ў шакаладзе, шэсьць каробак шакаладных цукерак, 24 бляшанкі напою "Фанта".

### ГВАЛТ

Наваяўленыя "Крутыя" асаблівай фантазіяй у сваіх забавах не адрозьніваюцца. Адпачываюць і "адвязваюцца" у адпаведнасьці са сваімі духоўнымі патрэбамі.

У Горадні двое непрацуючых ёлупаў зацягнулі ў машыну дзьвюх дзяўчат, завезьлі на кватэру, дзе напаілі, пабілі, прапаноўвалі ўступіць з імі ў палавую сувязь.

* * *

У Лідзе двое юнакоў давялі аналагічную справу да канца. Зацягнуўшы дзяўчыну ў машыну, вывезьлі за горад, дзе па чарзе пазьдзекваліся. Вядзецца пошук гвалтаўнікоў.

### НА ГАРАДЗЕНШЧЫНЕ НЕ ЎСЁ СПАКОЙНА

У адносна спакойнай Беларусі грамадзяне рэспублік былога Саюза не толькі зьдзяйсьняюць злачынствы, але і самі становяцца аб'ектамі злачынных замахаў.

Супрацоўнікамі міліцыі, як ужо паведамляла "Пагоня", у Горадні затрыманы жыхар Чачні, які вымагаў у жанчыны 20 тысяч долараў ЗША. У выпадку няўплаты, вымагальнік пагражаў зьнішчэньнем сям'і і забойствам былога мужа, які ўтрымліваецца ў чачэнцаў у якасьці закладальніка ў Маскве.

У Шчучынскім раёне нападу падверглася сямейная пара, якая прыехала на Беларусь пагасьцяваць. На лясной дарозе трое невядомых, выкарыстоўваючы сілу, адабралі ў іх 3 тысячы долараў ЗША, 6 тысяч расейскіх рублёў, мільён беларускіх, 300 тэньге Кыргызстана. Як з мужчыны, так і з жанчыны зьнялі норкавыя шапкі.

### МАЛАДОСЬЦЬ ПЕРАМАГЛА

Застаецца толькі здагадвацца, што ў тры гадзіны ночы, на прывакзальнай плошчы абласнога цэнтра, не падзялілі дырэктар і настаўнік адной з гарадзенскіх школ і трое студэнтаў сельгасінстытута. Перамога аказалася на баку студэнтаў.

### І ПРА ЖАНЧЫН НЕ ЗАБЫЛІСЯ

Да сьвят, у тым ліку і да 8-га сакавіка, кожны рыхтуецца па-свойму. У вёсцы Краскі Ваўкавыскага раёна злодзеі, абясточыўшы сігналізацыю і трапіўшы ў краму, не забыліся і пра жанчын. Сабе ўзялі 80 бутэлек настойкі "Празрыстая", а для прыгожых дам прыхапілі дзьве пляшкі "Шампанскага". Злодзеі затрыманы.

**А.ІВАНОЎ.**



"ПАГОНЯ"

Рэдактар М.МАРКЕВІЧ.

Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд "БАЦЬКАЎШЧЫНА".

Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.

Тэлефоны: 45-29-96, 45-41-83.

Газета выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.

Пры передруку спасылка абавязкова.

Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест размешчанай у газеце рэкламы.

Індэкс 63124.

Фотанабор, афсетны друк.

Гарадзенская абласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул.Паліграфістаў,4.

Заказ 881.

Наклад 10944 паасобніка.